# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 41 (2235)

10 кастрычніка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


## ДАПАМОГА З БРУСЕЛЯ

Ужо працяглы час у Бельгіі дзейнічае Саюз савецкіх грамадзян гэтай краіны (ССГБ). За сваю гісторыю ён шмат разоў браў удзел у акцыях дапамогі Радзіме. Гадоў некалькі таму члены ССГБ прынялі рашэнне распачаць кампанію дапамогі трым пацярпеўшым ад Чарнобыля рэспублікам, вылучыўшы ў кожнай канкрэтны аб'ект сваёй дабрачыннасці. У Беларусі пасля перамоў і кансультацый з Беларускім таварыствам "Радзіма" імі была вызначана Станькаўская школа-інтэрнат для дзяцей-сірот. І вось, скарыстоўваючы аказію, прадстаўнік ССГБ Таццяна Абадзі разам з грамадзянкай Бельгіі Паскаль Дэнеф прывезлі беларускім дзецям дабрачынны груз, закуплены і сабраны на сродкі памянёнай арганізацыі. Гэтыя ахвяраванні: лекі, шпрыцы, вопратка, абутак, вітаміны — усяго болей чым два дзесяткі розных скрынак і пакункаў — былі перададзены гасцямі з Бельгіі школе-інтэрнату.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

## БУЛЬБА ЯК ЗОЛАТА



Такога Беларусь яшчэ не ведала: у самы сезон значна павышаны цэны на гародніну, у прыватнасці на бульбу, якая здаўна ў беларусаў лічылася ледзь не асноўным прадуктам харчавання. Недарма ж кулінарныя кнігі прапануюць з гэтай культуры больш за 1 000 розных страў.

Кілаграм бульбы ў магазіне каштуе сёлета восенню амаль паўтара рубля, на базары — да трох рублёў. Абноўленая суверэнная рэспубліка, якая, здаецца, вызвалілася і ад партыйнага дыктату, мае магчым[illegible] узяць пад сваё надзейнае крыло а[illegible]оленых і малазабяспечаных, аднак асуджае іх на яшчэ больш жабрацкае існаванне.

Устрывожаныя гараджане робяць усе магчымыя захады, каб неяк запасціся на зіму бульбай. Яны прапаноўваюць калгасам і саўгасам свае паслугі, разлічваючы атрымаць плату за сваю працу натуральным прадуктам, але гаспадаркі чамусьці не заўсёды ідуць насустрач такім прапановам. Зды[illegible] нашы зроблены там, дзе ад дапам[illegible]араджан не адмовіліся. У калгасе "Усход" Маладзечанскага раёна (здымак першы) працуюць студэнты з Маладзечна. У саўгас "Сацыялізм" на Гомельшчыне (другі здымак) прыязджаюць працаўнікі "Гомсельмаша".

### СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА МАЙСТРОЎ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСІ

# ГОРНЫ ЗНОЎ ЗАПАЛІМ І ЗАМЕСІМ ГЛІНУ...

**Імя Яўгена САХУТЫ добра вядомае чытачам нашай газеты. На працягу многіх гадоў ён друкуе на старонках "Голасу Радзімы" артыкулы пра народных майстроў. Дзякуючы яму, шаноўныя чытачы, вы змаглі пазнаёміцца з прадстаўнікамі напаўзабытых на нашай зямлі рамёстваў, з самародкамі, якія вырабляюць унікальныя рэчы з гліны, саломы, дрэва. Кандыдат мастацтвазнаўства Яўген Сахута з'яўляецца аўтарам кніжак "Народная разьба па дрэву", "Беларуская народная кераміка", "Беларускае народнае мастацкае кавальства", "Беларускае народнае мастацтва", "Народнае мастацтва і мастацкія промыслы Беларусі", "Мастацкія рамёствы і промыслы Беларусі" (разам з Говарам), "Фарбы роднай зямлі". Выдатны спецыяліст у галіне народнага мастацтва, даследчык і папулярызатар, ён абраны старшынёй нядаўна створанага Таварыства майстроў народнай творчасці. З ім гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Яўген Міхайлавіч, я вас вiншую з пачаткам дзейнасці таварыства, якое, як я мяркую, павінна ўнесці свой уклад у справу адраджэння традыцыйных беларускіх народных рамёстваў і промыслаў. Наколькі я ведаю, на ўстаноўчай канферэнцыі былі розныя варыянты назвы таварыства. З чаго вы зыходзілі, выбіраючы менавіта гэтую?*

— Спачатку мы хацелі стварыць таварыства народных майстроў. Але, калі зыходзіць з навуковага пункту гледжання, то народныя майстры — гэта канкрэтная катэгорыя людзей, якія абапіраюцца на народныя традыцыі і працягваюць іх у сваёй творчасці. Такіх майстроў у нас цяпер няшмат, і, на вялікі жаль, становіцца ўсё менш і менш. Калі абмежавацца толькі імі, то атрымаецца, што мы вельмі звужваем кола сваёй дзейнасці, і вялікая група людзей, якая займаецца мастацкай творчасцю, але не адносіцца да народных майстроў, выпадае ўвогуле з поля зроку. Хто ж яны, гэтыя людзі? Па-першае, гэта самадзейныя мастакі, моладзь, якая хоча працягваць традыцыі, але яшчэ вельмі няўпэўнена адчувае сябе ў гэтых адносінах; кола проста аматараў, якіх варта было б скіроўваць у народную творчасць; самадзейныя ўмельцы. Карацей, вялікае кола людзей з творчай жылкай, якія непасрэдных адносін да народнага мастацтва не маюць, але з часам маглі б стаць народнымі майстрамі. Скажу нават болей: сягоння мяжа паміж народным мастацтвам і самадзейнай творчасцю размытая ў многіх выпадках, і цяжка бывае вызначыць, дзе народны майстар, а дзе ўмелец. Выбар назвы нашага таварыства, як бачыце, быў прадыктаваны рэальным становішчам спраў. Зыходзілі мы яшчэ і з таго, што многія ўмельцы, скажам, ювеліры, могуць даваць вялікія прыбыткі. А без грошай таварыства існаваць не зможа. Асабліва цяпер. І падтрымаць тых жа самых ганчароў і ткачых у нас іншых магчымасцяў няма. Было ж такое становішча, што народнымі майстрамі ніхто не апекаваўся, з іх толькі бралі, нічога не давалі ўзамен і давалі такім чынам амаль што да гібелі...

*— Хацелася б, каб вы вельмі коратка, як гэта магчыма для газеты, ахарактарызавалі сённяшні стан народнага мастацтва.*

— Стан народнага мастацтва ў Беларусі даўно ўжо трывожыў спецыялістаў, інтэлігенцыю. У пасляваенны час яно троху абудзілася. Гэта было выклікана тым, што не хапала прамысловай прадукцыі, таму даваліся ўзяцца і за ткацтва, і за пляценне, і за разьбу. Але як толькі тавары першай неабходнасці з'явіліся ў крамах, народнае мастацтва пачало інтэнсіўна занепадаць. Гэта па-першае. Па-другое, неразумная фінансавая палітыка дзяржавы таксама падарвала асновы народнага мастацтва. Па-трэцяе, нам увесь час убівалася ў галаву думка, што народнае мастацтва — гэта мастацтва мінулага. Дайшло да таго, што народныя майстры самі сталі лічыць сябе нікому не патрэбнымі, пачалі кідаць сваё рамяство. Я гаварыў з многімі ганчарамі. І тыя шчыра казалі мне: "У мяне ёсць сыны, але яны займацца ганчарствам не будуць. Хай ідуць на любую работу, толькі не з глінай. Каму патрэбна гэта старызна".

*— І што практычна зроблена, каб сёння майстар, скажам, у Ружанах мог зноў запаліць горан і пачаць сваю працу? Як таварыства будзе памагаць яму?*

— Людзі недасведчаныя ўяўляюць, што вось як толькі стварылася таварыства, дык назаўтра кола і закруціцца... А ўсё гэта далёка не так. У нас зараз арганізацыйны перыяд. Нядаўна з'явіліся людзі ў штаце: бухгалтар і камерцыйны дырэктар — ён сам з народных майстроў, разьбяр. Пакуль што няма свайго памяшкання, транспарту. Толькі нядаўна адкрыты ўласны рахунак. Паведамляю яго: 700497 Мінскбізнесбанк МФО 400019. Былі б вельмі ўдзячныя тым, хто захоча падтрымаць наша таварыства.

*— Што будзеце рабіць далей?*

— Як толькі мы зможам разгарнуць сваю дзейнасць, з'явяцца пэўныя сумы на нашым рахунку (народныя майстры падпісалі ўжо некалькі

(Працяг на 6-й стар.).

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# НАРКОМ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Кастрычніцкая рэвалюцыя. Грамадзянская вайна. І новыя крутыя павароты ў лёсе А. Баліцкага. У 1918 годзе ён апынуўся ў Адэсе, дзе ўлада мянялася, накатваючы хвалямі: пятлюраўская — Савецкая — зноў пятлюраўская. З Савецкай супрацоўнічаў: быў інструктарам губернскага аддзела народнай асветы, загадчыкам аддзелаў — пазашкольнага, сацыяльнага выхавання, пятлюраўскую — абыходзіў. І, нягледзячы на ўсе акалічнасці, імкнуўся да ведаў: паступіў у Адэскі сельскагаспадарчы інстытут. У 1919 годзе пятлюраўцаў на Украіне змяніла Добраахвотная армія Дзянікіна. А. Баліцкі стварыў партызанскі атрад, які актыўна дзейнічаў у тыле дзянікінцаў. У лістападзе 1919 года ён уступіў на Украінскую партыю камуністаў-барацьбістаў, якая з усталяваннем Савецкай улады ўлілася ў бальшавіцкую партыю.

1920 год, зноў Адэса: Антон Баліцкі — член губернскага аддзела народнай асветы, загадчык Палітасветы, загадчык губернскага аддзела народнай асветы.

І зноў паварот. Той самы, аб якім дапытваўся ў У. Ігнатоўскага на пасяджэнні парткалегіі А. Рыськін. Цэнтральнае бюро КП/б/Б звярнулася ў ЦК РКП/б/ з просьбай адклікаць А. Баліцкага з Адэсы. У кастрычніку 1921 года ён прыязджае ў Мінск, дзе прызначаецца спачатку членам калегіі Наркамата асветы, затым яе сакратаром, а праз паўгода — намеснікам наркома У. Ігнатоўскага. З лютага 1926 і па жнівень 1929 года — наркомам.

Што ж умясцілі ў сябе гэтыя восем гадоў яго жыцця, усяго толькі восем? Ды, бадай, — усё жыццё. Без таго беларускага адраджэння, у падмурак якога ён заклаў некалькі сваіх краевугольных камянёў, магло б аказацца немагчымым і новае — другой паловы 80-х, якое з вялікімі цяжкасцямі, з напругай, але ж распачалося, ідзе.

Дакументы, што захаваліся ў архівах, сведчанні сучаснікаў, артыкулы і выступленні А. Баліцкага дазваляюць сказаць, што ён добра ўсведамляў патрэбу стварэння сістэмы народнай адукацыі — ад пачатковай да вышэйшай школы — як асновы развіцця грамадства, як фундамента беларускага адраджэння. Прычым, сістэмы цэласнай, дзе адно звяно было злучана з другім структурна, звязана агульнымі задачамі, мэтай і праграмай навучання. Але ж і сістэмы гнуткай, з поўнай свабодай выбару аўтаномнасці кожнага звяна, творчай свабодай для настаўніка. Пошук адпаведнай мадэлі і яе ўвасабленне на практыцы ў 20-я гады ішлі супярэчліва, з цяжкасцямі, метадам спроб і памылак. На першым часе не абмінула Наркамат асветы, самога А. Баліцкага распаўсюджаная ў тую пару хвароба — нецярпенне. У імкненні як мага хутчэй забяспечыць усеагульную адукацыю паспешліва адчынялі сотні школ — малалікіх, без належнай матэрыяльнай базы, нярэдка з выпадковымі людзьмі ў ролі настаўнікаў. Але ж паглыналі яны значную частку наркаматаўскіх сродкаў. Непамерна разбух і апарат самога Наркамата — да 3 тысяч чалавек к 1922 году. Новая эканамічная палітыка, рэзка скараціўшы бюджэтныя асігнаванні, працверазіла, прымусіла шукаць выйсце. Перш-наперш скарачаюцца штаты Наркамата — да 54 чалавек. Закрываюцца непрацаздольныя навучальныя ўстановы: прафесійнай адукацыі — на 18, [illegible]яльнага выхавання — н[illegible], палітасветы — на 80 працэнтаў. Паводле даных гісторыка Л. Смілавіцкага, школьная сетка зменшылася да ўзроўню 1914 года. Але гэта адпавядала рэальным магчымасця[illegible] што хутка зразумелі [illegible]ком Ігнатоўскі і яго намес[illegible] Баліцкі. Прапанаваныя імі меры развіцця адукацыі прадугледжвалі ў духу нэпа плату за навучанне (І рубель золатам у месяц для вучняў малодшых класаў, 3 рублі — старэйшых) і прадастаўленне насельніцтву права адкрыцця школ за свой кошт на аснове калектыўных дагавораў. Зразумела, гэта абмяжоўвала даступнасць адукацыі, але ж спрыяла павышэнню яе якасці. Школа не толькі пачала самаакупляцца, а нават прыносіць даход (у Мінску, напрыклад, ужо ў 1923 годзе 1 мільён рублёў), што дало магчымасць умацаваць яе матэрыяльную базу, падняць аплату працы настаўнікаў (да 60 рублёў золатам у месяц).

Аднак галоўным напрамкам заставалася стварэнне дзяржаўнай бясплатнай сістэмы адукацыі, якая б магла забяспечыць правы і магчымасць усім дзецям вучыцца ў школе. У гэтым у А. Баліцкага сумненняў не было. Задачу ўвядзення ўсеагульнага абавязковага навучання ў артыкуле "Прынцыповыя пытанні асветы", напісаным у 1926 годзе, ён называе "асабліва важнай". Па яго ж ініцыятыве 7 красавіка таго ж года ЦВК і СНК прымаюць адпаведную пастанову ў дачыненні пачатковай адукацыі. Артыкул А. Баліцкага "Сістэма народнай асветы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", надрукаваны ў трэцім нумары часопіса "Асвета" — па сутнасці сведчанне, што такая сістэма ў сваіх асноўных звеннях была створана. Як сёння бачна, задума і вынік у многім і значна разыходзіліся. Ужо тады вызначыліся такія ж асноўныя грахі, як залішняя цэнтралізацыя, ідэалагізацыя і палітызацыя. Але тое, што гэта была сістэма і сістэма менавіта народнай, а не элітарнай адукацыі, сумненню не падлягае.

Школа пачатковая, сямігодка і дзевяцігодка, прафесійнае вучылішча, тэхнікумы, рабфакі і вышэйшыя навучальныя ўстановы (на той час БДУ і політэхнічны інстытут) адчынялі дзверы да ведаў сапраўды шырокім працоўным масам, забяспечвалі непарыўнасць навучання, падрыхтоўку патрэбных кадраў спецыялістаў.

Сфарміравалася і даволі зладжаная структура кіравання ў сферы асветы і культуры з Наркаматам на чале. Але пры гэтым трэба ўлічваць, што ўсёй паўнаты самастойнасці і ўлады, нават у межах сваіх непасрэдных функцый, Наркамат не меў. Галоўныя, стратэгічнага характару пытанні гэтак жа, як і найбольш значныя кадравыя, вырашаліся ў ЦК КП/б/Б, хаця прапановы, праекты тых жа рашэнняў рыхтаваліся ў наркаматаўскіх кабінетах. Складаныя ўзаемадзеянні між верхнімі структурамі кіруючай партыі і органаў Савецкай улады кардынаваліся ў тым ліку і на асабістым узроўні: вядучыя савецкія кіраўнікі адначасова ўваходзілі ў ЦК КП/б/Б, асобныя — у яго бюро. Як, напрыклад, У. Ігнатоўскі. А. Баліцкі ніколі, нават на пасадзе наркома, у партыйныя кіруючыя органы не ўваходзіў.

Ну а прынцыпы новай савецкай школы? Якімі яны ўяўляліся А. Баліцкаму? У адным з яго артыкулаў, прысвечаных дзесятай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, чытаем: "Усю сутнасць старой школы неабходна павярнуць у адваротны бок, выкінуць з яе ўсё непатрэбнае, усё, што перашкаджае рабочаму класу-дыктатару разбурыць капіталістычную і феадальна-шляхецкую сістэму адукацыі і прыступіць да будаўніцтва пралетарскай асветы на новых прынцыпах і з новым зместам. Рыхтаваць новае падрастаючае пакаленне як змагароў за камуністычнае грамадства з псіхалогі[illegible] калектывістаў, з цвёрдай [illegible]й і грамадска неабходнай кваліфікацыяй, з матэрыялістычным светапоглядам на аснове разумення законаў развіцця прыроды і грамадства".

Арыгінальнага тут мала. Звычайн[illegible] абор тагачасных афіцыйн[illegible] фармулёвак. Пытанне ў іншым: ці падзяляў Баліцкі іх, у чым, наколькі і ці быў шчыры? І пытанне больш шырокае: "Ці падзяляў ён камуністычную ідэю, ідэі сацыялістычнага, савецкага будаўніцтва?" Я задаваў яго сабе, калі даследаваў жыццё і дзейнасць У. Ігнатоўскага, праблемы беларусізацыі, калі сутыкнуўся ў ходзе гэтых даследаванняў з лёсамі людзей — выхадцаў з беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, шчырых прыхільнікаў беларускага адраджэння, якія прыйшлі на пэўным этапе да бальшавікоў, уступілі ў Кампартыю, занялі тыя ці іншыя пасады ў савецкіх і партыйных органах.

Адказ пашукаем у самога Антона Васільевіча, у сведчаннях аб ім. У аўтабіяграфіі, напісанай у 1923 годзе, матывуючы свой выбар часоў грамадзянскай вайны — разам з бальшавікамі, Баліцкі знайшоў патрэбным адзначыць: "Знаёміцца з марксісцкай літаратурай у поўным сэнсе я пачаў толькі пасля рэвалюцыі; з гэтага часу я пачаў разбірацца з існуючымі і існаваўшымі партыямі. Работа сумесна з бальшавікамі дала мне магчымасць грунтоўна пазнаёміцца з Камуністычнай партыяй". З характарыстыкі 1922 года, падпісанай СНК БССР і Цэнтральным бюро ЦК КП/б/Б: " А. В. Баліцкі вядомы як вопытны арганізатар і кіраўнік у галіне народнай адукацыі... Па сваіх палітычных пераканаўнях — камуніст". Уласнаручны запіс сакратара ЦК КП/б/Б Багуцкага ў асабістым лістку члена КП/б/Б А. Баліцкага: "Энергичный, твердый, дельный работник, хорошо знакомый со всеми сторонами работы народного образования, с 3-летним административно-организационным стажем в этой отрасли. Может быть использован как агитатор. Некоторое упрямство в его характере приводит к недоразумению".

Па сведчанню тых, хто ведаў Антона Васільевіча, чалавекам ён быў адкрытым, прыветлівым, аптымістычным, бытавых цяжкасцей не заўважаў, на грошы не сквапны, служэнне ідэі лічыў галоўным. Такім чынам, і справы, і характар, і жыццёвы лёс, і словы (яго і аб ім) сыходзяцца на адным: такі чалавек не мог крывадушнічаць у галоўным, не мог гаварыць адно, а думаць другое, рабіць — трэцяе. А. Баліцкі прыняў камуністычную ідэю, як ідэю сацыяльнай справядлівасці, паверыў у магчымасці бальшавіцкай партыі і Савецкай улады перарабіць свет нанава ў імя чалавека працы. Але чалавека не абстрактнага і не безназоўнага, не маючага сваёй айчыны, а чалавека — прадстаўніка свайго народа. Да прыняцця ідэі сацыялістычнай ён ішоў ад ідэі нацыянальнай, спалучаючы адну з другой. Ён паверыў у намер і магчымасці РКП/б/, Савецкай улады ажыццявіць ідэі беларускага адраджэння. Нацыянальная праграма партыі і яе практычная нацыянальная палітыка пачатку 20-х гадоў, здавалася, не давалі падстаў у тым сумнявацца.

Аляксей КАРОЛЬ.

Працяг. Пачатак у № 40.

## "ТУРЭЦКІ МАРШ" У БАРЫСАВЕ

**Па шашы Мінск—Масква пры ўездзе ў Барысаў з'явіўся новы дарожны паказальнік — "Енка". Але гэта не населены пункт, а назва прыватнай турэцкай будаўнічай фірмы, што ўзводзіць дамы для афіцэраў і прапаршчыкаў, якія ўсё яшчэ праходзяць службу ў Германіі.**

**У Барысаве працуюць тры тысячы турэцкіх будаўнікоў. Рабочы дзень у іх працягваецца дванаццаць гадзін. Адзін выхадны ў месяц. Дванаццаць дамоў і ўсё, што ім спадарожнічае, разам з дарогамі і бульварамі новага гарадка, будзе пабудавана ўсяго за 195 дзён.**





**НА ЗДЫМКАХ: у рабочых фірмы "ЕНКА" няма вольнай хвіліны. Для інтэрв'ю — усмешка; расце гарадок для ваеннаслужачых.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**




145

Памёр для беларускай Грамады і памяць нават па сабе ня кінуў. Уявілі сабе — й ня будзем варушыць цені нябожчыка.

— Ты заўсёды ўсіх абараняеш, "айцец" Кірыла, — засьмяяўся Малевіч.

— Што? Перад тым, як чалавека абвінавачываць, трэба яго зразумець. Можа быць, каб мы маглі яго абвінавачываць...

У гэты момант падыйшла да гутарыўшых Вярхоўская.

— Аб чым шуміце вы, народныя трыбуны? — засьмяялася яна.

— Вы чулі, — пачаў Тамашэвіч, — гэты таўкач Тугоўскі скончыў жыцьцё самагубствам.

— Як самагубствам? — успыхнула Вярхоўская. Яна ўспомніла, што ў той далёкі час, у "Чэска-Рускай Едноце", ён дэманстратыўна зьнік з яе вачэй... Яна ўспомніла ўжо потым, чаму не магла знайсьці яго ў залі.

— Вельмі проста. Узяў ды дабравольна адмовіўся ад стыпэндыі.

— Адмовіўся ад стыпэндыі? — засьмяялася Вярхоўская. — Адмовіцца, грамадзяне, ня страшна, але ж трэба мець якія-небудзь перспэктывы. Трэба ж ведаць, што рабіць далей.

— Напэўна, Тугоўскі мае перспэктывы якія-небудзь, — сказаў Бурак. — Я думаю, грамадзяне, што Тугоўскі паступіў вельмі хітра: усё роўна вясной, пры праверцы экзаменаў, яго маглі-б прагнаць са стыпэндыі. А так, калі ён адмовіўся ад стыпэндыі дабравольна, яму па закону павінны былі выдаць папярод за месяц. Палітыка!

Усе прысутныя засьмяяліся й паглядзелі на Бурака.

— Запраўды, так магло быць... Хітрыя беларусы, — засьмяяўся Тамашэвіч. — Новую рысу характару адкрылі мы ў Празе.

146

— Грамадзянка Вярхоўская, — перабіў сьмех сур'ёзны Кірыла, — вам ёсьць ліст у Студэнцкім доме.

— Мне ліст? — зьдзівілася Вярхоўская. — Ад каго ён мог быць?

Яна хуткім крокам пайшла ў канцылярыю дому. Студэнты засталіся яшчэ гутарыць. Доўга яшчэ яны, сабраўшыся гуртам, зьвярталі на сябе ўвагу іншых, пакуль нарэшце ў залі не запаліліся вагні й яны не разбрыліся ў Студэнцкі дом.

Вярхоўская зараз жа па атрыманьню ліста пайшла дахаты. Ліст Тугоўскага яе зварушыў. Па лісту яна зразумела: ува ўсей сваей трагэдыі Тугоўскі віну пакладае на яе. Яна вінавата ў тым, што ён адмовіўся ад стыпэндыі. Так можна было зразумець па тону ліста. Што было рабіць ей? Яна ішла трывожная й зьдзіўленая дахаты. Яна нічога дагэтуль ня ведала аб каханьні Тугоўскага. Хто такі быў Тугоўскі? Магла яна пакахаць яго? Яна ўспамінала яго вобраз. Ён ня быў горш за іншых. У ім было нешта, магчыма, вышэйшае за іншых студэнтаў. Ён адзін з тых нямногіх, якія з самага пачатку гутарылі з ей не аб стыпэндыі, не аб сваей кар'еры, але аб літэратуры й грамадзянскіх справах. Гледзючы па лісту, можна было падумаць, што ў ім яшчэ было нешта жывое, прыгожае, можа быць, нават паэтычнае. Яна заўсёды гутарыла вельмі ахвотна з ім і аб тым нават зазначала студэнтам. Але пры ўсім гэтым у яго былі вялікія недахопы. З ім чулася нейкая няпэўнасьць, у грамадзянстве з ім было непрыемна сядзець у якім-небудзь рэстаране ці на якім-небудзь канцэрце. Наогул, праз некалькі дзён ён, напэўна, стаў бы

147

нецікавым і шэрым, як пажоўклая старая кніга. Зусім іншая справа з Загорскім. І ўсё ж такі пасьля гэтага ліста нейкая жаласьць дарухалася да яе сэрца. Такіх шчырых лістоў яшчэ ніхто да яе не пісаў, пакуль яна жыве на сьвеце. Відалася, што ён глыбока кахаў яе, і ей было шкода яго, шкода свайго можа быць запраўды непрыгожага паступку. У той час яна проста не зьвярнула на яго ўвагі, ён не падабаўся ей з сваей няпэўнай і нязграбнай фігуры. Ей падабаўся больш Загорскі, якога хоць можна заўсёды з гордасьцей паказаць грамадзянству. Што рабіць? Ей шкода Тугоўскага, вельмі шкода. Яна зусім ня думала, што прычыне яму болі, прымусе яго ледзь ня плакаць у сваім лісьце... Трэба напісаць яму адказ. Яна пайшла дахаты, зараз жа дастала блакнот і пачала пісаць: "Паважаны грамадзянін Тугоўскі! Ваш ліст вельмі зьдзівіў мяне: зьдзівіў таму, што Вы мяне абвінавачваеце ў непрыгожым паступку. Калі я пайшла з Загорскім пагутарыць, дык таму, што ў яго была да мяне справа (ён гутарыў аб тым, што думае пераходзіць да нас на філязофію), і я хутка не магла з ім скончыць размоў. Вам заставалася толькі пачакаць мяне і не ўцякаць з вечара, як зрабілі Вы. Што зробіш? Сталася так. Цяпер ня час разважаць аб тым. Мне толькі шкода Вас, шкода, як дзіцёнка, ад якога аднялі цацку. Я хачу спадзявацца, што мы яшчэ з Вамі спадкаемся й вы не пакінеце Прагі, як пагражаеце ў лісьце. Жадаю ўсяго найлепшага — Вярхоўская.

P.S. У гэтую нядзелю ў Студэнцкім доме ўлаштовываюць карнавал. Калі хочаце правесьці са мной час, абавязкова прыхадзіце. Пагутарым аб усім пад гукі джаз-банду. Г. В."

Яна злажыла свой ліст, з трывогай пачала перачытываць ліст Тугоўскага. Як дзіўна: гэты ліст прымушаў мацней біцца яе сэрца й пакрываў чырвоным колерам яе прыгожы твар. Што было рабіць ей з такімі непрыгожымі надаедлівымі прызнаньнямі ў каханьні ўзбаламучаных мужчынскіх слоў.

148

Ей было сьмешна чуць цэлы паток лірычных слоў, якім нісколькі ня верыла... Калі б яна паверыла кожнаму мужчыне, які абяцаў быць яе рабом, што-б тады было? Не... Яна ведала цану мужчынскім словам!.. Яна сьмяялася над іх спробай паэтычных ашуканстваў і сьмяялася ім у вочы, як ей падчас нясьлі іх увагі й кампліменты. А цяпер, чытаючы ліст Тугоўскага, адчула, як у яе сэрцы прабудзілася жаласьць, жаласьць да мужчыны, у шчырасьць якога паверыла. І яна з жахам пачала думаць, ці ёсьць у яе хоць кропля пачуцьця да яго, ці можа яна адказаць яму ўзаемнасьцей. Ей было шкода яго, шкода, можа быць, таму, што яго каханьне магло застацца бяз водгуку. Яна задумалася й моўчкі пасядзела за сталом, пакуль не сьцямнела ў пакоі.

## VIII

Тугоўскі, хаваючыся ад усіх унівэрсытэцкіх, круціў у руках сіненькі аркуш паперы, сьпісаны дробненькімі літарамі: сорам заліваў чырвоным колерам яго твар. Ён некалькі разоў перачытываў адзін і той самы сказ: "Мне шкода вас, як дзіцёнка, ад якога аднялі цацку". "Падумаеш, якая дарослая грамадзянка, якая разумная пані... Не, паважаная грамадзянка Вярхоўская! Можаце мяне не шкадаваць... Я не патрабую вашай жаласьці. Я не дзіцёнак, які лёг-бы на падале вашай спадніцы, каб вы гладзілі яго галоўку! Я шукаю не вашай жаласьці, а вашага каханьня!" У сэрцы Тугоўскага рос папрок, чаму ён пісаў ей столькі шчырых радкоў, з такім паэтычным натхненьнем. Пісаў ей толькі для таго, каб яна потым пасьмяялася з яго і назвала-б яго дзіцёнкам, ад якога адабралі цацку? Як сумна і як абразліва! І няўжо не магла знайсьці лепшага мейсца для гутарак, як карнавал? Эх, якая нягодная яна пасьля ўсяго гэтага. Ён атуліў яе такім паэтычным арэолам, ён асьвяціў яе такім дзіўным сьветам — як Рафаэль сваю сэкстынскую Мадонну, а яна была маленькай звычайнай шэранькай душанькай, яна была меленькай, сухой студэнткай, напісаўшай яму нічога ня значучага шэрага ліста. Ён успомніў канец аднаго вершу Янкі Купалы: "Гэткім шчырым каханьнем яе атуліў, а яна, а яна была толькі дзяўчынай..."

149

Зразумела, ён рашыў не йсьці на гэты карнавал. На што ўсе гэтыя інтэлігэнцыі! Ён будзе мужчынам! Няхай ветры пакоевай глушы сьпяваюць паніхіду па яго мінуламу й па яго сучаснаму. У глушы родзіцца новы чалавек з новай верай, з новым сэрцам, родзіцца запраўдні сын беларускага народу. Да новага жыцьця, разьвітаўшыся з усімі Вярхоўскімі, з усей мяшчанскай Прагай!

Ён схапіў ліст Вярхоўскай, каб яго парваць, але ў гэты момант спыніўся: "Мы можам быць добрымі сябрамі", — успомніў ён словы з ліста. На хвіліну ён задумаўся. Але потым схапіў ліст і парваў яго: "Не, мы ня можам быць добрымі сябрамі, — казаў ён сабе, — дачка папа і сын чорнаработніка! Лацінская мова й геомэтрыя не маглі дасыпаць рову, які ляжыць паміж гэтымі двума палосамі. Дык грайце марш, Вярхоўская! Можа быць яшчэ спаткаецеся на карнавале з Загорскім! Жадаю посьпеху!" Ён горка ўсьміхнуўся й пачаў хадзіць па свайму пакою ўзад і ўперад, раздумываючы над тым, як выехаць з Прагі на Бацькаўшчыну.

150

І ўсё ж такі ў дзень карнавалу ён ня вытрымаў. Цікавасьць перамагла ўсе яго разважаньні, і ўвечары прымусіла падыйсьці да Студэнцкага дому. Студэнцкі дом ніколі не выглядываў такім бліскучым, як у гэтую марозную ноч. Дзіўныя вагні розных колераў пераліваліся сваімі праменьнямі на бліскучым сьнягу. Прыгожая музыка неслася праз дзьверы залі ў сваім нястрыманым шалёным скоку і прымушала кружыцца да забыцьця. Па ўсім залям скакалі карагоды масак, быццам гэта быў велізарны зьвярынец, пачаўшый скокі. Дэкальтэ дам і крыклівыя маскі вабілі "зьвяроў" усялякіх гатункаў і прымушалі асабліва часта раздавацца выстралам канфэці й развівацца стужкам.

Тугоўскі спыніўся, нікім не прыкмечаны ў цёмным кутку залі. Міма яго праносіліся вясёлыя карагоды скакаючых. Адна нейкая маска з шырокай спадніцай балерыны вышэй кален, з голымі рукамі пранеслася міма яго так блізка, што ён аж уздыхнуў: ці не заўважыла яна яго. Праз хвіліну ён убачыў стаяўшага, як і ён, чалавека.

— Кірыла! "Айцец" Кірыла, — прамовіў Тугоўскі шопатам.

— А, гэта ты, Тугоўскі, — ледзь ня крыкнуў ад зьдзіўленьня Кірыла, — якім ты чынам тут? Вось так спатканьне.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 40.

151

— Ціха, — шаптаў Тугоўскі, — нас пабачаць. Скажы ты мне, што гэта за пара: вось гэта балерына й гэты...

— У касьцюме П'еро? А ты хіба ня ведаеш? — усьміхнуўся Кірыла. — Прыслухайся да іх голасу.

Тугоўскі пачаў прыслухівацца. Белы, як сьмерць, ад пудры з чырвонымі двума малінавымі лініямі ля вушэй, з намалёванымі вачыма й наведзенымі маршчынамі на чале, П'еро быў ня хто іншы, як Загорскі. Даму ён пазнаў хутка, гэта была Вярхоўская.

— Ну? — прадоўжываў сьмяяцца Кірыла. — Бачыш? Ні даць ні ўзяць: Пьеро і Каламбіна.

— Пойдзем адсюль, — крыкнуў Тугоўскі. — Куціць, "айцец" Кірыла, куціць. Тугоўскі хоча куціць.

— Ты звар'яцеў, — схапіў яго рукаў Кірыла, — апамятайся.

— Адсюль хутчэй, "айцец" Кірыла, да "Флэка", гора замачыць.

Піўная ў "Флэка" была любімым мейсцам спатканьня студэнтаў і разам з тым знамянітай піўной у Празе. На сьценах яе заляў было нямала старынных афарызмаў.

У піўной было шумна. Публіка ведала, што ў гэтай піўной можна трымаць сябе зусім вольна, й таму сядзела й сьмяялася й сьпявала песьні, як у сябе ў хаце. Шматлікія кэльнэршы ў чорных, як ноч, шоўкавых халатах лоўка ставілі на стол літровыя куфлі чорнага піва, самага лепшага ў Празе. У адной з заляў Тугоўскі заўважыў некалькі прафэсараў тэхнікі з дамамі:

— Глядзі! — сказаў ён Кірылу, — бачыш, чым займаюцца прафэсары.

— А што ж, хіба яны ня людзі, — зусім не дзівуючыся, зазначыў Кірыла, — іх тут заўсёды бывае шмат.

152

За столікамі разьмяшчаліся студэнты часта па нацыянальнасьцях. За адным сталом сядзелі чэхі, за другім — баўгары, за трэцім — расейцы, за чацьвёртым — украінцы, і ўсе яны стараліся сьпяваць свае народныя песьні.

На гэты раз студэнтаў было мала. Яны селі каля нейкае сямейнае пары, якая, нягледзячы на сваю велізарную таўшчыню, спажывала прынесеныя з сабой "вуршты". Жонка не адставала ад мужа й са смакам цягнула піва.

— Ты глядзі, што гэтая тоўстая чэшка, — шапнуў Кірыла, — паб'е рэкорд і вып'е ўсіх іх куфляў. Ты ведаеш, тут ёсьць традыцыя, — прамовіў ён грамчэй, — хто выпівае 17 куфляў за адзін вечар, той робіцца ганаровым гасьцём піўной і можа піць далей піва бясплатна.

— Праўда? — усьмяхнуўся Тугоўскі.

— Праўда! Гэта запраўды геройства. Нармальна досыць чатырох куфляў піва, каб пачуць, што Капернік меў рацыю і зямля кружыцца каля Сонца.

Прыгожая кэльнэрша паставіла ім на стол піва. Тугоўскі ўпіўся ў яе вачыма.

— Якія прыгожыя жанчыны, гэтыя чэшкі, — з уздохам сказаў ён.

— Ты нешта зашмат думаеш аб іх, — засьмяяўся Кірыла, — плюнь, дружа! Ня варта думаць аб гэтым.

— Як ня думаць, "айцец" Кірыла, мяне ж ніхто яшчэ ў жыцьці не кахаў. Ты разумееш, што гэта знача? Дваццаць чатыры гады я рос на зямлі, ня ведаючы, што такое каханьне цела, — як пчала, што ўпіваецца ў кветку, не маючы магчымасьці пацалаваць пах, каб на вуснах засталася кроў.

# «АПОШНІ СВОЙ СКАРБ АДДАЮ»

## *Да 100-годдзя з ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма БАГДАНОВІЧА*

Класічная паэзія кожнага народа становіцца фактам яго духоўнай біяграфіі толькі тады, калі пройдзе шлях ад першапачатковай этнаграфічнай прастаты — праз сацыяльна-палітычную рэфлексію нацыянальнага самаўсведамлення — да той мастацкай вышыні, на якой яна ўсведамляе самую сябе як духоўную самакаштоўнасць нацыі. Беларуская нацыянальная літаратура ў неспрыяльных гістарычных умовах доўга затрымалася на першай, этнаграфічнай стадыі — з канца XVII — да сярэдзіны XIX стагоддзяў. Затое яе класіка стваралася за фенаменальна кароткі час: не больш чвэрці стагоддзя прайшло ад першых зборнікаў Багушэвіча да выдатных твораў Купалы, Коласа ды апошняй лебядзінай песні Багдановіча. У непараўнальна больш шчаслівай рускай літаратуры — гэта шлях ад Аляксандра Пушкіна да Аляксандра Блока!

Янка Купала і Якуб Колас былі сярод першапраходцаў, яны стваралі паэтычную мову народа. Гэтай місіі шчасліва адпавядаў характар іх таленту — стыхійнага ў найлепшым сэнсе гэтага слова, што арганічна вырастаў з традыцый народнай песнятворчасці. Максім Багдановіч па ўзросту — іх малодшы сучаснік, якому, аднак, было наканавана першаму развітацца з жыццём. Але паводле логікі літаратурна-гістарычнага часу ён ішоў за імі і прадстаўляў новае літаратурнае пакаленне. Гэта быў паэт высокага таленту, пакліканы жыццём і боскі выбранец.

М. Багдановіч не толькі ўзышоў на сваю здалёк прыкметную літаратурную вышыню, але, па сутнасці, завяршыў станаўленне беларускай паэтычнай класікі. Яго кніжка выбраных вершаў (1913) прыгожымі гарманічнымі акордамі вянчала паэтычна-мастацкае самаўсведамленне беларускай нацыі. У свой час паэты "Узвышша" звярнулі ўвагу на цэласную кампазіцыю паэтычнага "Вянка". Сапраўды, калі ёсць у нашай паэзіі дасканалы па кампазіцыі зборнік вершаў — не выпадковы і эклектычны набор твораў, а закончаная, аб'яднаная адзінствам паэтычнай задумы кніга, — то гэта "Вянок" М. Багдановіча. Апрача падзагалоўка "Кніжка выбраных вершаў", гэтая кніжка мела яшчэ тэматычнае вызначэнне — "Малюнкі і спевы". Тэма спеваў падключала яе да агульнай песеннай плыні беларускай паэзіі.

Песенна-музыкальная праграмнасць Багдановічавага паэтычнага "Вянка" ўказвала на яго радавод і яго вытокі ад народнай паэзіі, якая тварылася ў сінкрэтычным адзінстве з музыкай-песняй. Відавочна, гэта была даніна нацыянальнай адраджэнцкай традыцыі, бо ў нашай класічнай літаратуры жанр паэзіі выдзеліўся з фальклору, набыў мастацкую самастойнасць. Традыцыйная для яе музыкальнасць вынікала не з першапачатковага сінкрэтызму, а з творчага сінтэзу двух самастойных відаў мастацкай творчасці, якія павязаны паміж сабою генетычным адзінствам і захавалі спецыфічныя для кожнага паасобку агульныя мастацка-выяўленчыя сродкі — рытм, інтанацыю, лад, мелодыю, урэшце, сваю прасодыю і метрыку.

Што ж датычыцца першага жанравага вызначэння кніжкі выбраных вершаў Багдановіча (зразумела, ускоснага, сімвалічнага, а не прамога) — "малюнкі", то і тут у беларускай літаратуры былі свае традыцыі, праўда, далёкія і ў тыпалагічна іншай, мастацкай культуры эпохі Рэнесансу і барока. Прыпомнім "Вертоград многоцветный" Сімяона Полацкага, "Перло многоценное" Кірылы Транквіліёна (Украіна, XVII стагоддзе), папулярную на Беларусі Х[illegible] XVII стагоддзяў "Диоптру, а[illegible] Зерцало и выраженьне жив[illegible]а людскога".

М. Багдановіч арганічна не хацеў і "не ўмеў" ісці ў літаратуру па сцежках і пуцінах, пракладзеных папярэднікамі. Асаблівасць яго творчай натуры — здольнасць у[illegible]аць у сваю душу іх здабыт[illegible] самому адкрываць новыя далягляды мастацкай культуры. Паміж натурнымі эскізамі прыроды папярэднікаў і паэтычным жываапісаннем Багдановіча — такая ж розніца, як паміж пачаткам класічнай паэзіі і яе завяршэннем. У эпоху станаўлення паэтычнага эпасу непасрэднае, амаль што натуралістычнае мастацкае выяўленне жывой рэальнасці — гэта ўжо цуд мастацтва. Нябесны Творца, паводле Бібліі, адным толькі словам сваім стварыў усю разнастайнасць Сусвету. А паэт і мастак вяртае разнастайным з'явам быцця іх першапачатковую ідэальную сутнасць — зноў жа праз словы-вобразы. Але такі цуд пераўтварэння матэрыяльнага ў духоўнае бывае толькі на світанку мастацкай творчасці, на эпічнай стадыі яе развіцця, калі ствaралася "Іліяда" Гамера, народная песня; урэшце, на першапачатковым этапе нацыянальнай літаратуры з яе парадаксальнай аб'ектыўна-эпічнай лірыкай. Будучы аднойчы вынайдзенай, яна не церпіць паўтораў і эпігонства. На кожным новым этапе творчасці першаадкрывальнікі (а тым больш яго паслядоўнікі, новыя генерацыі пісьменнікаў) павінны нанава адкрываць для сябе і чытача красу і трагізм жывой плыні быцця.

Адкрыццём М. Багдановіча стала майстэрскае знітаванне гэтых двух пачаткаў лірычнага жанру — выяўленча-жывапіснага, альбо малюнкавага, і музыкальнага, гукавога. Дзіўнае, магчымае толькі ў музыцы і лірычнай паэзіі гарманічнае паяднанне пластыкі і гука, малюнкаў і спеваў было свядомай праграмай паэта, пазначанай у эпіграфе да першага раздзела "Вянка" радкамі з верша А. Фета:

**Этот листок, что иссох и свалился,**
**Золотом вечным горит в песнопении.**

Зразумела, кожная нізка "Вянка" яго паэзіі, кожны твор мае свой набор выяўленчых сродкаў, дзе пераважае музыкальны альбо жывапісны пачатак. Ёсць вершы філасофскія, паэтычныя медытацыі, гісторыка-гераічная лірыка, урэшце, — паэтычныя імпрэсіі альбо іх фрагменты ў выглядзе брыльянтавых россыпаў чарнавых накідаў. Шмат якія з іх не трапілі ў "Вянок" — строгую па крытэрыях адбору кнігу. Аднак усе яго творы, у тым ліку і тыя, што ствараліся пасля выхаду "Вянка", дапасоўваюцца да цыклаў гэтай кніжкі выбраных вершаў. Усе разам знітоўваюцца ў вянок сімфоній пра Бацькаўшчыну, яе трагічную культуру, пра жыццё чалавека на яго родных гонях і ў Сусвеце. Паэтычны сімфанізм — выдатная і, магчыма, унікальная асаблівасць мастацкай спадчыны Багдановіча. Ягоныя цыклы і нізкі вершаў развіваюць кантрастныя па гучанню і зместу тэмы, матывы, вобразы і сімвалы; у сваім развіцці яны выяўляюць мноства сэнсавых значэнняў, "праігрываюцца" на шырокім спектры эстэтычных катэгорый — ад узнёслага, прыгожага і трагічнага да гратэскава-камічнага і ў рэшце рэшт яднаюцца ў гарманічным сінтэзе.

Цыкл вершаў "Лясун" успрымаецца чуткім да музыкі чытачом як саната беларускай пушчы. Санатнай экспазіцыі цалкам адпавядае верш пра летняга Лесуна: "Прывольная, цёмная пушча; // Вялізныя ліпы, дубы, // Асінніка, ельніка гушча, // Між хвоі апаўшай — грыбы. // Усё дзіка, пустынна імшыцца, // Агністая спека стаіць. // На моху між спелай брусніцы // Лясун адзінокі ляжыць. // Каравая моршчыцца скура, // Аброс цёмным мохам, як пень, // Трасе галавою панура, // Бакі выгравае ўвесь дзень... //

Перад намі малюнак летняй пушчы, у якім абросшы цёмным мохам лясун — міфічная душа лесу — кантрастна выдзяляецца на фоне сонечнага бляску і чырвані спелых брусніц. Падтэкставая музыка верша (у самым тэксце яна тут саступае месца жывапіснай пластыцы) гучыць у элегічнай танальнасці і пераходзіць у элегічныя акорды фіналу (сэнсавы акцэнт на апошні вершавы сказ: "На сэрцы і жаль і жуда: // Усё знікла — і ўдалася, і сіла! // Прапала, як дым, як вада!").

Вобраз восеньскага Лесуна (верш "Старасць") адпавядае санатнай распрацоўцы. Уводзяцца новыя, не закранутыя ў [illegible]пазіцыі характарыстыкі, рас[illegible]ваецца псіхалагічная маты[illegible]роўка, статыка экспазіцыйнага малюнку ("Лясун адзінокі ляжыць") пераходзіць у запаволеную дынаміку. Праз сцішаны лес, дзе ч[illegible]рвонай лістотай "палаюць асіны, каліны", панура пахіліў[illegible]я, брыдзе знямоглы Лясун з [illegible]ярпанай скурай і зламаным рогам: "Спяшыць ён дайсці да трасіны: // Там — мяккія, цёплыя мхі, // А тут толькі плачуць асіны // Ды б'юцца галіны альхі".

Распрацоўка, пазначаная ў малюнку-экспазіцыі, рухае лясную санату Багдановіча, узнікае тэма жыцця, смерці і плёну зямнога быцця. Дынаміка малюнку нарастае, уладна гучыць матыў часу. Тэма Лесуна ў вершы-мініяцюры "Возера" — гэта эпізод лясной санаты. Прыгожая, сонечна ясная жамчужына-метафара: "Стаяў калісь тут бор стары, // І жыў Лясун у тым бары. // Зрубалі лес — Лясун загінуў, // Во след яго ад той пары: // Сваё люстэрка ён пакінуў".

Метафарычнае атаясамліванне возера з люстэркам вядзе свой радавод ад беларускіх чарадзейных казак: там герой, хаваючыся ад антаганістаў, кідае за сабой люстэрка, і на яго месцы ўзнікае возера. У фабулы адпаведных эпізодаў казкі і разгорнутай метафары Багдановіча — метамарфоза, якая стала мастацкім тропам, аднак захавала сваю сувязь з паэтычным міфам. У кампазіцыйным плане гэты верш — тыповы эпізод распрацоўкі асноўнай тэмы, выдзяленне аднаго з яе матываў па прынцыпу "частка замест цэлага".

Урэшце, апошнія (паводле сэнсавага і музыкальнага выяўленчага руху да завяршальнага сінтэзу) тры вершы з цыкла "Лясун" — гэта санатная рэпрыза, ці, больш дакладна, заключная частка лясной сімфоніі. У ёй паэт як бы вяртаецца да пастаральных тэм і матываў экспазіцыі. Аднак цяпер яны відазмяняюцца: замест статычнай малюнкавай пластыкі — дынаміка музыкальнага руху да гарманізацыі сузірання і волі, жывапісу і музыкі, сну і прабуджэння, цішыні і гучнага крыку, незамутнёнай, райскай дабрыні і стыхійнага памкнення да зла. Злая стыхія перадольваецца, а сузіральнае дабро пераходзіць у дабро дзейснае, жыватворнае, заснаванае на меры і красе. Пераход ад другой да трэцяй, рэпрызнай часткі паэтычна-санатнага цыкла адбываецца ўвядзеннем хрысціянскага матыву — парадаксальных "Хрэсьбінаў Лесуна":

**Бор шумеў, навяваў зводны сон,**
**А ў ім ціхі гул раздаваўся, —**
**Гэта ў небе Лясун калыхаўся**
**На вяршынах вялізных сасон.**

**Яму месяц маркотна свяціў,**
**Падымалі крыжы ў неба елі, —**
**І у сіняй нябеснай купелі**
**Душу дзікую ён ахрысціў.**

Бор — храм Лесуна. Пушчанскі шум — хрэсьбінскі гімн. Сіняе неба — касмічная купель. Маркотнае святло месяца — свечкі.

**Уладзімір КОНАН.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 40.**

# ГОРНЫ ЗНОЎ ЗАПАЛІМ І ЗАМЕСІМ ГЛІНУ...

**(Працяг.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

дагавораў на афармленне грамадскіх інтэр'ераў, на некаторыя іншыя работы), мы пачнём выконваць свае непасрэдныя абавязкі. А галоўная задача такая: усямерна падтрымліваць народных майстроў. Дзеля гэтага хочам выступіць своеасаблівымі пасрэднікамі паміж імі і пакупнікамі. Сітуацыя такая, што майстры, якія нешта вырабляюць, часта не ведаюць, куды і як збыць сваю прадукцыю. А аматары мастацтва, у сваю чаргу, не ведаюць, дзе набыць тыя ці іншыя рэчы. Гэтай сітуацыяй, як вядома, з поспехам карыстаюцца шматлікія дзялкі і кааператывы. Вялікая колькасць турыстаў з Захаду і проста аматараў, якія разумеюць каштоўнасць рукатворных вырабаў, кінуліся ў Беларусь. У нас народнае мастацтва яшчэ жыве, у той час як на Захадзе яно амаль што знішчана прагрэсам яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. "Дзелавыя людзі" скупляюць тут за бясцэнак творы народных майстроў, гандлююць імі за мяжой. Ні валюты, ні добрых грошай не перападае майстрам. Усё гэта мы добра разумеем. Але ні ў якім разе не збіраемся абмяжоўваць сваю дзейнасць пасрэдніцкімі паслугамі. Будзем дапамагаць майстрам матэрыяламі — глінай, саломай, дрэвам, фарбамі, садзейнічаць забеспячэнню майстэрнямі, наладжванню нармальнага статуса ў сваім наваколлі. Справа ў тым, што мясцовыя органы ўлады не заўсёды з разуменнем ставіліся да таго ці іншага майстра, лічылі несур'ёзным яго занятак, больш таго, маглі загадаць зраўняць з зямлёй ганчарны горан... Такія адносіны трэба ў корані мяняць, і мы ўсё будзем дзеля гэтага рабіць! Каб і ўлады, і самі людзі зразумелі, што народным майстрам трэба не перашкаджаць, а ўсяляк спрыяць.

Адзін з асноўных накірункаў работы таварыства — арганізацыя вучнёўства.

*— Як вам гэта работа бачыцца?*

— Найбольш нам імпануе тая форма, якая спрадвеку практыкавалася ў народзе: вучнёўства шляхам пераемнасці ад бацькоў. Калі дзеці бачаць, назіраюць, як бацькі займаюцца нейкім відам народнага мастацтва, яны самі вучацца, пераймаюць сакрэты. Гэта аптымальны і найбольш прадукцыйны шлях. Але да самага апошняга часу было так, што дзеці бачылі, чым бацькі займаюцца, але не надта імкнуліся навучыцца, бо заўважалі, што да іх творчасці не надта прыхільна ставіліся. Станоўчы паварот у свядомасці, скажу вам, ужо ёсць. Але гэтых дзетак трэба яшчэ больш скіроўваць. Гэта і ёсць адна з асноўных нашых задач.

Ну і зразумела, мы ніяк не можам адмаўляцца ад тыпова сучасных відаў арганізацыі вучнёўства — гурткоў, школ, майстэрань у гарадах, пасёлішчах, вёсках.

*— А як і дзе вы мяркуеце наладзіць продаж вырабаў народных майстроў, умельцаў?*

— На жаль, у нас пакуль няма сваіх кіёскаў і магазінаў, але яны будуць. Усё будзе залежаць ад таго, наколькі мы зможам разгарнуць сваю дзейнасць. Вазьміце нядаўна створаныя таварыствы — "Бацькаўшчына" і ТБМ: яны ўжо маюць сваю сетку збыту. Мяркуем разгарнуць сваю дзейнасць, каб кожны аматар мастацтва мог набыць неабходны яму твор як у сталіцы, так і на перыферыі. Такое вядомае мястэчка, як Івянец, на мой погляд, павінна мець і сваю краму, і сваю школу, дзе можна адрадзіць івянецкую фляндраваную кераміку, калісьці славутую, а зараз практычна занядбаную. Ёсць у Івянцы цікавыя будынкі, дзе можна было б арганізаваць выставачныя залы і тую ж школу народных майстроў. Будзем старацца выходзіць за мяжу.

*— Яўген Міхайлавіч, аднойчы ў камандзіроўцы я сутыкнулася з дзіўнай з'явай: майстар чорнаглянцаванай керамікі пакрываў свае вырабы алюмініевай фарбай. Ён сумна паведаміў мне, што яго аднавяскоўцам і жыхарам суседніх мястэчак больш падабаецца такі тавар... Як бы вы пракаменціравалі гэту з'яву?*

— Я таксама сутыкаўся з падобнымі выпадкамі. Калі задумацца над сутнасцю гэтай з'явы, то тут можна назваць шмат аспектаў. Прасцей за ўсё адзначыць кепскі густ людзей. Хаця і гэта ў даным выпадку мае месца. Трэба задумацца, чаму? Таму найперш, што не ведаюць і не паважаюць свайго, якое, дарэчы, мае высокія мастацкія якасці і цэніцца ва ўсім свеце. Па-другое, на глебе кожнай культуры, як правіла, узрастае кіч. Алюмініевая фарба на чорнаглянцаванай кераміцы — гэта і ёсць кіч. Патрафляць такому мяшчанскаму густу мы ні ў якім разе не будзем. Наша задача якраз падтрымліваць высокі, здаровы народны густ. Канешне, попыт ёсць попыт. Калі вынесці

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ТАЛЕНТ АСОБЫ



*ДА 60-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ніла ГІЛЕВІЧА*

Мастацкі талент Ніла Гілевіча вельмі шматгранны: у яго арсенале лірыка і публіцыстыка, крытыка і пераклады, гумар і літаратура для дзяцей, эпас і драматургія. І ва ўсіх сферах творчасці пісьменнік імкнецца выявіць сваю грамадзянскую пазіцыю. Выразны грамадзянскі тэмперамент, які вылучае Н. Гілевіча ў сучаснай беларускай літаратуры, асабліва моцна пацвярджаецца апошнім часам дзейнасцю Гілевіча як старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і як парламентарыя, старшыні камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. У Ніла Гілевіча яркі талент асобы, і гэта галоўнае. Можна любіць ці не ўспрымаць яго паэзію, згаджацца або спрачацца з яго разуменнем сучаснай грамадска-палітычнай і духоўнай сітуацыі, але нельга не прызнаваць неардынарнасць самой асобы Н. Гілевіча.

Як паэт Гілевіч сфарміраваўся ў канцы 50-х — 60-я гады, у час вялікага грамадскага ўздыму, калі з адмаўленнем ад пачварных праяў сталінізму адкрываліся новыя гістарычныя перспектывы. Тады беларуская культура вярталася да гуманістычных каштоўнасцяў, да спасціжэння народнага лёсу. Пафасам жыццесцвярджэння прасякнуты кнігі маладога паэта, што выходзілі адна за адной: "Песня ў дарогу", "Прадвесне ідзе па зямлі", "Неспакой", "Бальшак", "Перазовы", "Лісце трыпутніку". Неадольнасць руху жыцця, пошукі грамадзянскага і агульначалавечага ідэалу, красы і трываласці народнага духу — вось лейтматыў многіх твораў паэта гэтага часу.

Трывожна ўварвалася ў паэзію тэма вайны. У духоўнай біяграфіі таго пакалення беларусаў, якое называюць "дзеці вайны", гады ваеннага ліхалецця назаўсёды пакінулі свой адбітак. Гілевіч пісаў:

**Застаўшыся з маленства на вайне,**
**Я аднаго хачу, мая краіна:**
**Каб гэта скончылася ўсё на мне.**
**Каб гэта ўсё не стала доляй сына.**

Яшчэ ў патрыятычнай араторыі Гілевіча "Гарыць, гарыць мая Лагойшчына" (1966) быў пачаты журботны спіс "вогненных" вёсак Беларусі, падоўжаны затым вядомай кнігай Я. Брыля, А. Адамовіча, У. Калесніка. Памяць паэта ўзнаўляла канкрэтныя эпізоды ваеннага дзяцінства, гранічна набліжаючы да нас, да нашых пачуццяў перажытае вайной (паэма "Недзяленя", "Маленькая аповесць 1944 года", "Заручыны" і некаторыя іншыя). І нарэшце адну з апошніх у часе кніг пісьменнік назваў "Перажыўшы вайну. Аповесць у абразках памяці" (1988).

Перажыўшы. Хоць кожны раз усё тое перажываецца як бы нанава. І кожны раз журботныя званы Хатыні вяртаюць да той страшнай рэальнасці. І словы, словы,.. што пераймаюць дыханне ў жывых:

**Людзі добрыя, помніце!**
**Мы любілі жыццё, і Радзіму,**
**І вас, дарагія.**
**Мы згарэлі жывымі ў агні.**
**Наша просьба да ўсіх:**
**Хай жалоба і смутак**
**Абернуцца ў мужнасць і сілу,**
**Каб змаглі ўвекавечыць вы**
**Мір і спакой на зямлі,**
**Каб нідзе і ніколі**
**У віхуры пажараў**
**Жыццё не ўмірала.**

Гэтыя словы, выбітыя на мемарыяльным вянцы ў Хатыні, належаць Нілу Гілевічу. Цяпер ужо не толькі яму.

Матыў народнай, чалавечай памяці дамінуе ва ўсёй паэтычнай творчасці Гілевіча. Ён увасабляе пераемнасць духоўнага вопыту народа, неўміручасць народнага духу. Ужо з 60-х і асабліва на працягу 70-х гадоў галоўным клопатам Гілевіча як паэта і вучонага-фалькларыста была родная песня. У ёй адкрываў і гармонію слова і роднага свету, народнае разуменне дабра і прыгажосці. Таму так натхнёна шукае запаветную песню малады герой у паэме "А дзе ж тая крынічанька".

**Жывеш і будзеш жыць ты, песня матчына,**
**Пакуль народа сэрца будзе біцца!**

Паэтычнае асэнсаванне духоўнай спадчыны набывае ў творчасці Гілевіча апошніх гадоў шырокія абсягі, узбагачаецца новымі гістарычнымі і маральнымі аспектамі. Замілаванне песняй маці і матчыным словам, што выяўлялася ў шматлікіх творах ранейшага часу ("А ў полі вярба...", "Спадчына", "Ах, якая над Гайнай купальская ноч..", "А дзе ж тая крынічанька", "Роднае слова"), паглыбляецца роздумам над гістарычным лёсам народа ўвогуле, спасціжэннем каранёў народнай духоўнасці і нацыянальнага быцця. "Лірычны каментар да нашага радаслоўя", змешчаны ў апошнім паэтычным зборніку "Повязь" (1987), узводзіць нацыянальную спадчыну і самапавагу беларусаў на новую вышыню:

**Мы ўзышлі не з насення,**
**што ветрам занесена,**
**Мы не дзікай травы**
**самаросля парасткі.**
**У глыбінях зямлі,**
**гераічнай і песеннай,**
**Нашых душ карані —**
**з вузлякамі упартасці.**

Увесь боль і радасць жыцця, клопат пра спадчыну і будучыню народа спляліся ў самым поліфанічным творы Гілевіча — рамане ў вершах "Родныя дзеці" (1985). На лёсе адной сям'і, у цэнтры якой, паводле традыцый народнай маралі і этыкі, жанчына-Маці, прасочваюцца важнейшыя духоўна-сацыяльныя з'явы і катаклізмы нашага жыцця, і расце трывога паэта за стан духоўнага здароўя грамадства і стан прыроды. Як найвялікшая каштоўнасць жыцця сцвярджаецца роднасць людзей у сям'і, у айчыне, у свеце.

У рамане "Родныя дзеці", як і ва ўсёй паэтычнай творчасці Гілевіча, публіцыстычная пафаснасць адцяняецца лірызмам, тонкая іронія дапаўняецца з'едлівым сарказмам. Увогуле дыяпазон валодання словам у паэта надзвычай шырокі, што абумоўлена дакладным адчуваннем экспрэсіўных магчымасцяў роднай мовы і засваеннем эстэтычнага вопыту еўрапейскай паэзіі, перш за ўсё славянскай (балгарскай, македонскай, славенскай), якую даўно і плённа перакладае паэт на беларускую мову.

Сярод творчых здабыткаў Гілевіча некалькі кніг мастацкага перакладу, высока ацэненых у Балгарыі і Югаславіі, пра што сведчаць урадавыя ўзнагароды гэтых краін.

За час выкладчыцкай працы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце Гілевіч падрыхтаваў і выдаў 5 тамоў беларускага фальклору ў сучасных запісах, зробленых пад яго кіраўніцтвам студэнтамі універсітэта. Ён жа прысвяціў праблемам беларускага фальклору 4 навуковыя манаграфіі. Асобна выйшлі даследаванні пра паэзію "Маладняка" і сучасную балгарскую паэзію.

У апошні час характару грамадскай дзейнасці пісьменніка найбольш адпавядае публіцыстыка. Значны рэзананс набыла серыя артыкулаў Гілевіча пад агульнай назвай "Між былым і наступным", што друкавалася ў "Літаратуры і мастацтве" і ўвайшла затым у кнігу "Вяртанне і працяг" (1990).

Сёння пісьменнік і навуковец Ніл Гілевіч — адзін з самых вядомых у Беларусі людзей. Голас яго пазнаюць не толькі па знаёмых інтанацыях на святах паэзіі, але і па ўсхваляваных і мудрых выступленнях у рэспубліканскім парламенце, калі даводзіцца адстойваць інтарэсы культуры і духоўны суверэнітэт беларускага народа.

**Касцюк НАДЗЕІЧ.**

# БАГДАНОВІЧУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

Бадай, найбольш цікавых падзей, прысвечаных стагоддзю зоркі беларускай паэзіі — Максіму Багдановічу, прыпадае на восень і зіму.

Эстафета ўрачыстасцей з вёсак Вязззе і Ракуцёўшчына перададзена ў Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль. Тут у апошнія дні верасня таксама адбылося ўшанаванне памяці паэта. Праграмы ў абодвух гарадах вельмі насычаныя. Вось толькі некалькі фрагментаў — урачыстасці на вуліцы, якой прысвойваецца імя Максіма Багдановіча (Ніжні Ноўгарад), адкрыццё Дома-музея паэта (Яраслаўль), літаратурна-музычны вечар у тэатры імя М. Горкага, урачыстасці ў Акадэмічным тэатры імя Ф. Волкава... Трэба зазначыць, што над архітэктурна-мастацкім вырашэннем музея ў Яраслаўлі працуюць беларускія мастакі Эдуард Агуновіч і Генадзь Чысты.

У кастрычніку сталіцай Багдановічавых урачыстасцей стане Гродна, таксама звязанае з імем паэта: тут сям'я Багдановічаў жыла з 1892 па 1896 год, тут пахавана яго маці Марыя Апанасаўна. Галоўныя падзеі ўрачыстасцей — адкрыццё новай экпазіцыі Дома-музея М. Багдановіча і фестываль маладой паэзіі і аўтарскай песні.

Але, безумоўна, трэба сказаць, што вялікія ўрачыстасці наперадзе — у Мінску і Маскве ў снежні.

# У МАЙСТЭРНІ МАСТАКА



**Добра вядомы на Брэстчыне мастак Уладзімір Рамейка жыве і працуе ў Баранавічах. Разам з жонкай Вольгай Фенчынай яны арганізавалі эксперыментальную майстэрню пад эгідай брэсцкага мастацкага камбіната "Мастацтва". Уладзімір Паўлавіч аднолькава ўдала працуе ў жанры манументальнага роспісу, графікі, жывапісу, а Вольга Іванаўна захапілася мастацтвам габелена.**

**Творамі баранавіцкіх мастакоў зацікавіліся ў суседняй Польшчы і запрасілі іх папрацаваць у Любліне. Вынікам сталі выстаўкі, арганізаваныя ў гарадах Люблінскага ваяводства. Мастакоў абралі Ганаровымі членамі Люблінскага таварыства прыгожых мастацтваў.**

**НА ЗДЫМКАХ: у майстэрні Уладзімір РАМЕЙКА і яго жонка Вольга ФЕНЧЫНА; У. РАМЕЙКА. "Перанасычанасць".**

**Фота Э. КАБЯКА.**



# ПАД ЗНАКАМ "ТУТЭЙШЫХ"

2 кастрычніка, як заўжды, "Паўлінкай" адкрыў сезон Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. А 3 кастрычніка гледачы ўбачылі Купалавых "Тутэйшых", пад знакам якіх прайшоў мінулы сезон і, несумненна, пройдзе сёлетні.

А што новага чакае гледачоў на купалаўскай сцэне ў гэтым сезоне? Па-першае, фактычна прэм'ернымі будуць спектаклі, паказаныя толькі два-тры разы ў маі, — гэта "Бездань" паводле новай публіцыстычнай п'есы М. Матукоўскага (рэжысёр В. Мазынскі) і "Смех лангусты" Дж. Марэла, спектакль, дзе разам з З. Браварскай іграе запрошаны з Рэспубліканскага тэатра юнага гледача В. Лебедзеў. Першы са спектакляў, дзе вострa ставіцца праблема выжывання чалавека ва ўмовах блізкай экалагічнай катастрофы, выклікае асаблівую цікавасць. Неадназначныя вобразы нашых сучаснікаў — рэдактара газеты і сакратара ЦК былой партыі ствараюць у гэтым спектаклі вядомыя артысты Фама Варанецкі і Мікалай Яроменка.

Распачата праца над спектаклем па гістарычнай драме Івана Чыгрынава "Звон — не маліта". Яе сцэнічнае ўвасабленне пад кіраўніцтвам В. Раеўскага ажыццяўляе рэжысёр Г. Давыдзька. Тэатр прываблівае ў гэтым творы і рамантычны вобраз княгіні Рагнеды, і суровы подых нашай нацыянальнай гісторыі, і магчымасць павесці гаворку аб сэнсе чалавечага існавання.

# ГОРНЫ ЗНОЎ ЗАПАЛІМ І ЗАМЕСІМ ГЛІНУ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



на рынак гіпсавых кошак ці аленяў — іх будуць купляць. Калі б іх не куплялі, іх бы там не было. Заўсёды існавала культура высокая, сапраўдная і мяшчанская. Гэта трэба мець на ўвазе.

*— А як вы ставіцеся да масавай культуры?*

— Калі адасобіцца ад усіх навуковых вызначэнняў, то словы "масавая культура" гучаць даволі добра: культура для шырокіх мас, для ўсяго народа. Здавалася б, у такім выпадку, трэба ўсямерна падтрымліваць масавую культуру. Але ж мы ведаем, што гэтым тэрмінам абазначаецца культура нізкапробная, разлічаная на нізкія густы. Калі масавая культура будзе дыктаваць майстрам адыход ад традыцый, мы не будзем староннімі назіральнікамі.

Масавая культура бярэ вяршкі з прафесійнага, з народнага мастацтва, яна арыентуецца на нейкі такі сярэдні густ. Таму яна, масавая культура, на ўзроўні самадзейнасці ў бытавым значэнні.

*— Скажыце, а словы "самадзейнасць" у даным выпадку вы скарысталі са знакам плюс ці са знакам мінус?*

— Вы выказваеце тую думку, якая якраз дамінуе ў большасці людзей, што ведаюць збольшага ўсе віды мастацтва, але падрабязна не ўнікалі ва ўсе дэталі, не звярталіся да навуковых азначэнняў тых паняццяў. Дык вось, чамусьці часам, калі каго называюць самадзейным мастаком, ён крыўдзіцца, як быццам гэта другараднае мастацтва. З навуковага пункту гледжання, ёсць тры катэгорыі мастацтва: прафесійнае, народнае і самадзейнае. Яны раўназначныя, практычна на адным узроўні знаходзяцца. Ніякае з іх не горшае і не лепшае. Прафесійнае мастацтва — гэта зразумела: мастак — прафесіянал і займаецца справай прафесійна, з гэтага жыве. Звычайна бывае блытаніна паміж народным мастацтвам і самадзейнай творчасцю. Тут усё залежыць ад таго, наколькі творча ставіцца чалавек да народных традыцый, ці працуе ў тых формах, у якіх працавалі яго дзяды, бацькі. У самадзейным мастацтве чалавек працуе так, як яго душа загадвае, на ўзроўні свайго індывідуальнага разумення, індывідуальнай творчасці. Прадстаўнік кожнага віду творчасці знаходзіцца на сваіх пазіцыях. Яны раўназначныя, падкрэсліваю, і ў кожным ёсць дасягненні.

*— Ці мяркуеце вы ў перспектыве мець ... выданне?*

— Зразумела. Асабліва цяпер, калі вельмі і вельмі шырока разгортваюцца даследаванні ў галіне народнага мастацтва, а выдаць аўтару кніжку ў дзяржаўн... выдавецтве становіцца ама... ...магчымым.

*— Чаму?*

— Выдаць кніжку па кулінарыі, па сексу (тыраж вялікі) выдавецтвы хоць зараз вам прапануюць свае паслугі, бо загадзя вядома, што яна дасць прыбытак. Па мастацтву ў цэлым ніякае выданне ў нас не будзе прыбытковым, яно заўсёды будзе стратным. У варунках гэтага рынку даследчыкам будзе вельмі складана. І ў мяне толькі год назад падрыхтаваная па заказу выдавецтва кніжка пра народнае мастацтва не пайшла. Першы выпадак у гісторыі маёй навуковай дзейнасці. Мне сказалі: мы вам спачуваем, але не можам выдаць.

Так што мы мяркуем наладзіць выпуск сваёй газеты альбо часопіса. Розную рэкламную прадукцыю збіраемся выдаваць.

*— Ці можаце прыгадаць вы свае думкі і настроі, калі 20 гадоў назад зрабілі першую паездку па Беларусі з даследчыцкай мэтай? Ці памяняліся гэтыя думкі праз 20 гадоў?*

— Калі я пачынаў сваю навуковую дзейнасць, то лічыў, што бяруся за амаль безнадзейную справу. Народнае мастацтва ў нас было зусім кепска даследавана. У мяне былі дзесяткі кніг па рускаму народнаму мастацтву, па ўкраінскаму і практычна ніводнай па беларускаму. Гэта сёння мы ўжо маем публікацыі, кнігі, экспазіцыі народнага мастацтва. А мне прыйшлося пачынаць амаль з нуля. Напрыклад, ні ў адным музеі Беларусі ў той час не было ніводнай глінянай цацкі, ніводнай пісанкі, выцінанкі. Як ехаў на вёску, то мусіў браць з сабою гліну, паперу, фарбы. Прыйду да майстрыхі ці майстра і прашу іх зрабіць нейкую рэч. А яны часта не хочуць, не разумеюць, нашто гэта патрэбна. Такі моцны заняпад перажывала тады народнае мастацтва. Як кажуць, са стану клінічнай смерці вяртаецца да жыцця.

І на маіх вачах пачалося паступовае адраджэнне. Скажам, на пачатку маёй дзейнасці такое было: заедзеш да якой-небудзь ткачыхі, паглядзіш: усё ў доме заслана таннымі дыванамі з магазіна, а вытканыя ёю рэчы ляжаць у шафе. Пытаеш у яе, чаму хавае, бо яны ж прыгажэйшыя за купленыя. А яна са слязамі на вачах адказвае: яны ж цяпер не модныя, буду я гэтымі радзюжкамі знеслаўляцца перад суседзямі.

А цяпер чалавек ужо пачынае вяртацца да таго рукатворнага, што ніколі не было стандартным. Ёсць ужо вялікі попыт на тканыя рэчы. Цяпер у майстрыхі музей часам не можа нічога выпрасіць на продаж. Такая сітуацыя мяне радуе.

*— Магчыма, я не па адрасу звяртаюся. Але неадночы замежныя суайчыннікі задавалі мне пытанне: дзе і як у Беларусі можна купіць народны касцюм? Між іншым, няблага было б мець яго і нам, жыхарам Беларусі, каб апранацца ў якое свята... Таварыства зможа ў гэтым паспрыяць?*

— Я вас разумею. Але гэта такая складаная праблема... Я сам з ёю сутыкаюся вельмі часта. Напрыклад, фальклорныя калектывы трэба апранаць. Шкада бывае ўдзельнікаў тых калектываў, што апрануты ў безгустоўныя яркія касцюмы. Глядзець бывае сорамна. І праблема стаіць ужо даўно. Тыя ж самыя мастацкія камбінаты, якія дагэтуль займаліся вырабам сцэнічных касцюмаў, робяць нейкі сярэдні агульнабеларускі варыянт. З буйнымі, грубымі матывамі і ўзорамі.

На гэтай хвалі вялікага попыту ініцыятыўныя кааператы... аказваюць нам кепскую ...угу. Яны робяць яшчэ горш, чым камбінаты. Уплятаюць у ткацтва "залатыя" ніткі, упрыгожваюць рознай мішурой, люрэксам, нават і ўявіць такое... Усё грубое, дзі... зусім не адпавядае ...раўднаму беларускаму строю.

Сіламі аднаго нашага таварыства гэтай праблемы не вырашыш. Майстрых няма, якія б саткалі касцюм і вышылі яго. Нават каб зрабілі дакладную копію. Я ўжо зараз праз наш мастацкі савет падшукваю жанчын, якія ўмеюць займацца ткацтвам, вышыўкай, каб яны бралі канкрэтныя персанальныя заказы.

Добра, што вы гэта пытанне закранулі. Яно з'яўляецца адным з важнейшых у дзейнасці таварыства. Мы ставім на мэце як паўтарэнне аўтэнтычнага касцюма, так і стварэнне сучаснага моднага адзення на аснове традыцыйнага.

Я ведаю такія выпадкі, калі на мастацкім савеце мы прымалі распрацоўкі нашай навукова-даследчай лабараторыі. Касцюмы ультрасучасныя, створаныя па народных матывах. Вы б паглядзелі, якія шыкоўныя былі касцюмы, зробленыя па матывах пэўнага рэгіёна... Мастакам даюць прэміі за такую плённую работу, а потым усё ляжыць, таму што яны унікальныя, і ніводная фабрыка не бярэцца іх тыражыраваць. Гэта вялікая праблема, якую трэба вырашаць і на дзяржаўным узроўні, і на ўзроўні розных аб'яднанняў, у тым ліку і нашага таварыства.

Так што, якую галіну народнага мастацтва ні закрані — усюды праблемы. Што ж, будзем брацца.





НА ЗДЫМКАХ: пляцельшчык А. БЯЛЬКОВІЧ з в. Шахноўшчына Стаўбцоўскага раёна; разьбяр М. РЫШКЕВІЧ з в. Бешанкі Лідскага раёна; ганчар Іван ГЕНБІЦКІ з в. Гарадная Столінскага раёна.

Фота Я. САХУТЫ.

## ПАДПІСЧЫКАМ І ЧЫТАЧАМ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

**У сувязі з тым, што ў наступным годзе распаўсюджванне нашага штотыднёвіка ў розніцу цераз кіёскі "Саюздруку" пад вялікім пытальнікам і наўрад ці будзе мець месца, раім усім прыхільнікам газеты, хто жыве як на тэрыторыі Беларусі, так і іншых рэспублік былога Савецкага Саюза, загадзя падпісацца на газету на 1992 год. Падпісная цана 4 рублі 16 капеек, індэкс 63854. Не губляйце шанцу, які дае падпісная кампанія, і "Голас Радзімы" будзе вашым верным сябрам у галіне інфармацыі!**

## *СПОРТ*

Адразу некалькі спаборніцтваў, што прайшлі ці праходзяць у апошні час, заслугоўваюць увагі.

Пачнём з гімнастыкі. Мінчане Віталь Шчэрба і Святлана Багінская ўзначалілі зборныя Савецкага Саюза на чэмпіянаце свету ў ЗША. І выступілі нашы спартсмены выдатна: "золата" за камандныя спаборніцтвы, па некалькі медалёў розных вартасцей у асабістых выступленнях.

А пасля пачаўся асабісты чэмпіянат свету па міжнародных шашках у Мінску сярод жанчын. Фаварыты, як і заўсёды, прадстаўніцы Савецкага Саюза і Галандыі: З. Голубева, Н. Янкоўская, П. Палман, К. ван Літ. Пакуль у такім парадку яны і займаюць месцы перад самым фінішам.

Нагадаем, што З. Голубева — мінчанка. Раней мы яе ведалі пад прозвішчам Зоі Садоўскай. Зараз яна жыве ў Рызе.

Вельмі цікава пачалося першынство свету па цяжкай атлетыцы, якое праходзіць у Германіі. У спрадвечную барацьбу паміж спартсменамі СССР і Балгарыі ўмяшаліся напачатку кітайскія штангісты. Як закончыцца чэмпіянат?.. Аб гэтым мы паведамім нашым чытачам у наступны раз. Скажам толькі, што чакаем перамогі ў самай цяжкай вагавой катэгорыі ад Аляксандра Курловіча з Гродна.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Індэкс 63854. Заказ № 1520.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12